# КРЫВІНКА

ЛІПЕНЬ
№10 (236)
2019 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА



МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## БЫВАЙ, БЕШАНКОВІЦКАЯ ГІМНАЗІЯ!

**Напрыканцы чэрвеня педагогі бешанковіцкай гімназіі-інтэрната зьбіралі свае пакункі, каб назаўсёды развітацца з еймымі сьценамі. Частку з іх прыме СШ № 1 і СШ № 2, многія настаўнікі яшчэ не працаўладкаваныя.**

Нагадаем, што лёс гімназіі вырашыўся яшчэ год таму. Тады ёй далі адтэрміноўку і магчымасць прапісацца ў СШ № 2. Зараз, відаць, і прапіску тую палічылі непатрэбнай.

Наш сайт раней пісаў: «30-га сакавіка 2018 года ў гімназіі адбыўся бацькоўскі сход, які праводзіла начальніца раённага аддзела адукацыі, спорту і турызму Святлана Салоха і на якім яна агучыла вердыкт: „Бешанковіцкай гімназіі быць!"

Але пры тым разглядаецца адзіна магчымы варыянт: у будучым ў Бешанковічах застанецца толькі дзве ўстановы адукацыі: СШ № 1 і гімназія. Але сама гімназія „пераедзе" ў будынак СШ № 2. Аргументацыя пераезду наступная: адсюль вучням вельмі блізка да бібліятэкі, музычнай школы і спортшколы. А матэрыяльную базу СШ №2 будуць падцягваць да ўзроўню гімназіі.»

Пры ўсёй аргументацыі не на карысць гімназіі, перад тым як яе зачыніць трэба было зразумець адно: закрыцьцё гімназіі — гэта вырак (прыгавор) усёй сістэме раённай адукацыі. Зачыніць яе — гэта не тое ж, што зачыніць школу ў нейкім Рубяжы ці Паўазер'і. Хаця і закрыццё сельскай школы адразу ставіць пад пагрозу вымірання ўвесь рэгіён, які абслугоўвала школа. Закрыццё гімназіі робіць непатрэбным адказ на пытанне: «А куды мы ідзём далей?» Адказ магчымы толькі адзін: у тупік.

Так, былі цяжкасьці. Пэўна, яны былі часовымі. Іх трэба было перетрываць. Знайсьці магчымасьці, спонсараў, каб любым чынам пакінуць элітную установу. Маючы ў раёне прадпрыемствы тыпу «Націвіта», пытаньне вырашаецца нескладана. Не вырашылі. Звязалі лёс гімназіі з колькасьцю дыпломаў алімпіяднікаў. (Чамусьці колькасьць хакейных палацаў не звязваюць з месцамі, што займаюць нашы хакеісты на першынстве сьвету і Алімпіядах.)

Бывай, гімназія. Я думаю, калі мы дажывём да тых часоў і ў нас некалі будзе сапраўды народная ўлада, ты яшчэ вернешся. Так што бывай і да сустрэчы!

**Г.Станкевіч**

*Партал твайго горада: http://beshankovichy.by*

ЭКАНОМІКА

## НЕСУЦЯШАЛЬНАЯ СТАТЫСТЫКА

**Нацыянальны статыстычны камітэт падае па Бешанковіцкаму раёну за пяць месяцаў 2019 года ўпэўнены рост амаль па ўсіх паказніках развіцця.**

У раёне, як і годам раней, расце вытворчасць у прамысловасці і ў сельскай гаспадарцы, асабліва не падаюць аб'ёмы гандлю, пачала ўстойліва расьці зарплата. Усё здаецца ў поўным ажуры.Вось толькі насельніцтва раёна зноў катастрафічна зменьшылася.

На 1.06.2018 года ў Бешанковіцкім раёне пражывала 15 399 чалавек. Роўна праз год засталося 15 111. За 5 месяцаў адносна мінулага года ў раёне нас паменела яшчэ на 288 чалавек. Летась за той жа час гэтая лічба страт склала 227 чалавек. За два гады раён паменшыўся на 515 чалавек! І гэта не толькі пенсіянеры. Колькасць насельніцтва, якое занята ў эканоміцы, за гэты час зменшылася на 60 чалавек. А летась колькасць занятых у эканоміцы скарацілася аж на 204 чалавекі. Такімі тэмпамі праз нейкіх 10 гадоў у раёне застанецца каля 10 000 чалавек. І гэта называюць выкананьнем нейкай дэмаграфічнай праграмы!

Намінальная налічаная сярэднемесячная зарплата за 5 месяцаў у раёне складае 683 рублі 40 капеек. Гэта 78,9% ад сярэднеабласной зарплаты. Плюс да мінулагодняга паказніка склаў 93 рублі. Раён па-ранейшаму ўстойліва займае месца сярод 10 – 20 адстаючых раёнаў рэспублікі.

І яшчэ вось якая бяда: колькасьць стратных арганізацый у раёне павялічылася з 5 адразу да 21%. То-бок, кожна пятае прадпрыемства - стратнае! Адпаведна гэтаму, раённыя фінансы засьпявалі рамансы: страты за 4 месяцы 2019 года склалі ў Бешанковіцкім раёне 350 000 рублёў. А летась на 1.05. 2018 быў чысты прыбытак. Ён складаў 2 923 рублі.

**М.Васільеў**

ЭКАЛОГІЯ

## УВАГА: БАРШЧЭЎНІК САСНОЎСКАГА

**Афіцыйна лічыцца, што ў Бешанковіцкім раёне баршчэўнік Сасноўскага занімае 19,75 га. Аднак, думаецца, што гэтая лічба абсалютна ўмоўная. Бо баршчэўнік раптам з'яўляецца там, дзе яго ніколі не было. І аніхто ў раёне дакладна ня ведае, у колькіх кропках раёна ён ужо дыктуе свае правы.**

Прыкладам, у маіх Старых Ранчыцах блізу Крывінкі ёсьць адна плантацыя баршчэўніка, пра якую ведаю толькі я і змагаюся з ёй ужо гады чатыры. Сёлета на той плантацыі зноў прыйшлося падкасіць некалькі асобін шкодніка. Здаецца, што гэта плантацыя пад кантролем. Але ж штогадовая «рэгуліроўка» тут будзе патрэбная яшчэ не адно дзесяцігодзьдзе.

Але на мінулым тыдні, падчас касьбы сваім цялятам на кінутым агародзе, я адкрыў яшчэ адну плантацыю баршчэўніка. Яна месьціцца за нейкіх 300 метраў ад маёй хаты на беразе меліяртыўнага канала. Пяць (!!!) расьлін баршчэўніка нават не ведалі, што ім у Беларусі аб'явілі вайну і прывольна раскашавалі пад абаронай блізкага кустоўя. Калі яны тут з'явілася, і хто прынёс сюды насенне шкоднай расьліны — загадка.

Я зьвяртаюся да ўсіх бешанкоўцаў, хто бывае на прыродзе. Да вяскоўцаў і дачнікаў, да піянераў і пенсіянераў. Калі вы бываеце дзесьці на прыродзе, агледзьцеся, ці не вытыркнуў дзе галаву з вялізнымі парасонамі гэты злосны вораг. Яго можна заўважыць вельмі проста: ён гігант, які інтэнсіўна захоплівае жыцьцёвую прастору. Варта прагледзець ягоны імклівы наступ, і праз год-другі вы ўбачыце нязванага госьця ў сябе на парозе.

Для барацьбы з баршчэўнікам трэба адно - своечасова яго падкасіць, да таго часу, як утворацца ягоныя суквецьці — парасоны з насеньнем. Калі ж вы ўжо спазьніліся, і парасоны ўтварыліся, трэба надзець на кожны парасон цэляфанавы пакет і акуратна абрэзаць парасон у пакет. Сабранае такім чынам насенне трэба спаліць.

Памятайце, што сок гэтай расьліны можа выклікаць апёкі скуры, а таму захоўвайце элементарныя меры бясьпекі.

**Г.Станкевіч**

ЛЮДЗІ ПРЫДЗВІНСКАГА КРАЮ

## ПЧАЛЯР МІХАІЛ ПІСКУНОЎ

**Хто не любіць мёд? Ад гэтай карыснай прысмакі часам не могуць адмовіцца не толькі дзеці, але і дарослыя.**

Галоўны ветэрынарны ўрач ЗАТ «АСБ-Агра Наватар» з аграгарадка Ржаўка Бешанковіцкага раёна Міхаіл Піскуноў з самага дзяцінства займаецца пчалярствам, а таму ведае аб гэтым смачным прадукце ўсё. Сёння ён кіруе раённай арганізацыяй грамадскага аб'яднання «Беларускае таварыства прапагандыстаў прадуктаў пчалярства». Сакрэтамі, як правільна працаваць з пчоламі, выбіраць мёд, ён падзяліўся з карэспандэнтам «ВВ».

- Мой дзед і бацька былі пчалярамі, таму я з малых гадоў назіраў за тым, як яны глядзелі за пчальнікам, збіралі і захоўвалі мёд, - расказаў Міхаіл. - Больш за 30 гадоў займаюся пчалярствам самастойна, сёння ў мяне 30 домікаў. Разводжу пароду бакфаст. Гэта

*(працяг на стар. 2)*

### ****

*Калі звон душу
ня можа абнадзеіць,
калі ў Княстве Сэрца скрозь
адны паразы,
я імчуся да Ўсяслава Чарадзея,
ён заўжды і падтрымае,
і парадзіць.*

*Белай птушкай – белай чапляй
– абярнуся,
(бо навошта ж птушкай быць,
калі ня белай?)
Палячу над апусьцелай
Беларусьсю,
замаркочанай, скалелай
і зьнямелай.*

*Бляск вачэй яе і кожны мур
запомню,
туманы зьбяру я ў золкаў,
што радзеюць,
пралунаю пад крывіцкай
белай поўняй
ў стольны Полацак, да князя,
да надзеі.*

*Дзьве душы – сястры дзьве родныя,
дзьве скрыпкі,
і, калі ў адной струна
бядой напнецца,
пад смычком другой адчай
самотна ўсхліпне,
нібы рэха праз стагодзьдзі
адгукнецца.*

*"Князь, як камень быў ты,
цьвёрдым, непакорным,
а тваім нашчадкам
так бракуе веры.
Зберагчы як Край наш ад навалы
чорнай,
ад сурдутаў пацучыных
цёмна-шэрых?"*

*Князь замёр, як помнік,
і не зварухнецца,
вочы цёмныя, як неба
паміж зорак.
"Ты трымай сваю Радзіму
каля сэрца,
будзе схоў беспамылковым,
бездакорным.*

*Калі ворагі захочуць
Яе зьнішчыць,
будзеш сам ты для яе
жывой вадою,
пі слоў родных перазвон
зь яе крынічак,
а калі памрэш –
то толькі разам зь Ёю."*

*Я стаяў, Сафія ўзносілася ў неба,
зьнікларaптаміразгубленасьць,
і млявасьць.
Мне памерці б ў гэты момант
было трэба,
бо душа якраз пад зоркамі
кружляла.*

***Г.Станкевіч***

ЛЮДЗІ ПРЫДЗВІНСКАГА КРАЮ

***(пачатак на стар. №1)*** міралюбныя і прадуктыўныя пчолы, сапраўдныя працаўнікі, гатовыя добра працаваць у любое надвор'е. Аднак і да іх патрэбен правільны падыход. Працу з пчоламі важна любіць, быць заўсёды спакойным і ўважлівым, тады і вынік будзе добры.

Ідэя стварыць таварыства прапагандыстаў прадуктаў пчалярства ў Міхаіла паўстала ў 2013 годзе падчас наведвання абласной тэматычнай канферэнцыі. Сёння ў раённай арганізацыі - 9 чалавек, захопленых любімай справай.

- Я ўвесь час займаюся пошукам карыснай інфармацыі аб развядзенні пчол і нарыхтоўцы мёду, - адзначыў пчаляр. - А наша арганізацыя дае магчымасць мець зносіны, абменьвацца вопытам, ведамі і навыкамі. На пасяджэння збіраемся ў РДК, дзе ў рамках розных мерапрыемстваў прымаем удзел у тэматычных выставах. У бліжэйшы час плануем правесці для выхаванцаў прытулку традыцыйную дабрачынную акцыю «Мёд - дзецям».

Спадар Піскуноў перакананы, што мёд - гэта вельмі карысны прадукт, аднак выбіраць і ўжываць яго трэба асцярожна. Дасведчаны пчаляр раіць: набіваць ласунак варта толькі ў знаёмых пчаляроў альбо на штогадовых мядовых кірмашах у канцы лета і ў пачатку восені. На рынку трэба абавязкова спытаць у прадаўца сертыфікат якасці і пашпарт пчальніка, каб пераканацца ў натуральнасці прадукту.

А наколькі мёд свежы, можна праверыць простым спосабам: абмакнуць у прадукт лыжку і пакруціць яе вакол восі. Натуральны мёд, злёгку звісаючы і выцягваючыся, будзе намотвацца на лыжку. Калі яе не круціць, цягучы мёд будзе сцякаць у ёмістасць, утвараючы горку.

Няспелы або разведзены цукровым сіропам прадукт сцякае з лыжкі перарывістымі струменьчыкамі або капае. Каб вызначыць сталасць мёду, варта на некалькі хвілін пагрузіць у яго кавалачак хлеба: у якасным ён зацвярдзее, у няспелым - размягчыцца.

Спецыяліст рэкамендуе ўжываць мёд умерана: дарослым штодня па адной сталовай, дзецям - па чайнай лыжцы. Лепш за ўсё з'ядаць чысты мёд і запіваць яго цёплай вадой. Захоўваць прадукт неабходна ў чыстай закрытай шкляной тары пры тэмпературы ад 0 да +10 градусаў у сухім памяшканні, якое добра праветрываецца. Калі выконваць разумнасць і асцярожнасць - мёд прынясе здароўе і прыгажосць.

**Вікторыя Чакушка**
**“Віцебскія весткі”**

ТУРЫЗМ

# АГРАТУРЫЗМ — ЗАНЯТАК СЯМЕЙНЫ

**Аграэкатурызм прыносіць шмат пазітыўных эмоцый ад зносін з цікавымі людзьмі, а наогул, гэты занятак сямейны, лічыць віцяблянін Аляксей Гехт. Яго ўтульны аграсядзібных комплекс размясціўся за дваццаць кіламетраў ад Віцебска на маляўнічым беразе возера Гародна ў Бешанковіцкім раёне.**

Гаспадар сядзібы заўсёды марыў пра ўласную хату ў сельскай мясцовасці, таму некалькі гадоў таму вырашыў пабудаваць лецішча (дачу) недалёка ад абласнога цэнтра. Ідэя заняцца агратурызмам паўстала пазней. Першых гасцей міні-гасцініца сустракала ў ліпені мінулага года. - Дом з натуральнага дрэва з камінам, бібліятэкай і тэрасай з выглядам на возера, лазня, лужок для шпацыраў з хатнімі гадаванцамі, пляж для купання - адпачынак у нас дазваляе кожнаму расслабіцца і цікава правесці час, - распавёў Аляксей Рыгоравіч.

- Адны выбіраюць тэматычныя велапрагулкі ў Крупеніна, Астроўна, сядзібу Юрыя Слуцкага або на возера Белае. Іншыя - начлег ў намётавым лагеры з рыбалкай або конны шпацыр. Карыстаюцца попытам і кнігі з маёй асабістай бібліятэкі. У доме экспануюцца карціны аўтараў з Віцебскага абласнога аддзялення Беларускага саюза мастакоў. Гэтыя ж работы выстаўляюцца для абмеркавання на старонках у сацыяльных сетках. У асноўным гэтым займаюцца дочкі Вольга і Веранiка, якія жывуць у Мінску, аднак адпачываць аддаюць перавагу ў вёсцы Гародна Бешанковіцкага раёна.

**Вікторыя Чакушка**
**“Віцебскія весткі”**

КУЛЬТУРА

# АСВЯЧЭННЕ КАСЦЁЛА Ў БЕШАНКОВІЧАХ

**29-га чэрвеня, ва ўрачыстасць святых Пятра і Паўла, біскуп Віцебскі Алег Буткевіч асвяціў у гонар гэтых вялікіх апосталаў Хрыста новазбудаваны касцёл у Бешанковічах.**

Каталікі райцэнтра, размешчанага ў цэнтры Віцебскай вобласці, ужо даўно чакалі гэтай падзеі. Парафія тут была аднаўлена амаль два дзесяцігоддзі таму, а з’явілася яна яшчэ ў XVII стагоддзі.

У 1650 годзе Казімір Сапега пабудаваў у Бешанковічах першы касцёл. У тыя часы парафія налічвала больш за тысячу вернікаў.

У 1876 годзе на месцы старога касцёла была пабудавана з дрэва новая вялікая святыня, зачыненая і разбураная ў часы ваяўнічага атэізму савецкімі ўладамі.

Пасля адраджэння ў Бешанковічах каталіцкай супольнасці тут неслі служэнне кс. Казімір Гваздовіч, які быў прызначаны першым пробашчам у сучаснай гісторыі парафіі, кс. Павел Самсонаў і кс. Славамір Самковіч, пры якім былі зробленыя асноўныя будаўнічыя працы. У свой час пробашчам парафіі ў Бешанковічах быў і кс. Алег Буткевіч, цяперашні Віцебскі біскуп.

Урачыстасці распачаліся перад уваходам у святыню. Акрамя вернікаў з Бешанковічаў на асвячэнне храма прыехалі госці з Віцебска, Улы, Паставаў, Камаяў, Ваўкалаты і іншых парафій. Перад зачыненымі дзвярыма касцёла ўсе чакалі біскупа Алега Буткевіча.

Калі ўрачыстая працэсія са святарамі і міністрантамі падышла да святыні, вернікі прывіталі іерарха традыцыйным караваем.

Біскуп звярнуўся да прысутных з кароткім словам, у якім адзначыў важнасць гэтай падзеі для Бешанковічаў і для ўсяго Каталіцкага Касцёла на Беларусі.

Пробашч парафіі кс. Аляксандр Півавар уручыў пастыру Віцебскай дыяцэзіі сімвалічны ключ ад касцёла.

Біскуп Алег тройчы ўдарыў ім у дзверы святыні, пасля чаго ўрачыстая працэсія ўвайшла ўсярэдзіну.

Разам з біскупам урачыстую святую Імшу цэлебравалі дванаццаць святароў, якія, як апосталы ў Вячэрніку вакол Хрыста, сталі разам з біскупам вакол алтара.

У прамоўленай гаміліі біскуп Алег Буткевіч найперш падзякаваў усім святарам, якія працавалі ў Бешанковічах і якія так ці інакш прычыніліся да з’яўлення ў райцэнтры новай святыні.

Іерарх адзначыў, што Бог вяртае сваю прысутнасць нават там, дзе людзі з Ім змагаліся. Вельмі важна, што ў Бешанковічах пабудаваны новы касцёл, але яшчэ важней тое, што тут адбудавана жывая святыня, якая складаецца з чалавечых сэрцаў.

«Бог не патрабуе нейкага асобнага для сябе месца, — падкрэсліў іерарх, — бо Ён не змяшчаецца ў гэтых сценах. І гэта не столькі патрэбна Яму, але гэта патрэбна нам».

Пастыр звярнуў увагу на асаблівае значэнне, якое мае ў святыні алтар:

«Алтар — гэта стол Божы, дзе мы прымаем той хлеб, які ўмацоўвае нас на дарозе да неба. Гэта той хлеб, які нас непасрэдна яднае з Богам, з якога мы праз сваё сэрца прымаем Езуса Хрыста; хлеб, праз які ў нашай душы адбудоўваецца Божае валадарства».

Біскуп адзначыў, што менавіта за гэта аддалі сваё жыццё апосталы Пётр і Павел.

Акрамя таго, іерарх звярнуў увагу на тое, што кожная святыня нагадвае нам, што мы самі павінны быць святыняй Духа Святога. Біскуп параўнаў прыгожы белы касцёл з буслом, які лічыцца сімвалам Беларусі.

«Бусел, калі ляціць, сваім выглядам нагадвае крыж. А два крылы — гэта дзве хрысціянскія традыцыі: усходняя і заходняя, якія заўсёды суіснавалі на беларускай зямлі.

Гэты сімвал паказвае, што наша вера — адзіная, нягледзячы на людскія падзелы. Хрысціянам нельга варагаваць паміж сабою, а трэба разам шукаць шляхі супрацоўніцтва», — падкрэсліў біскуп Буткевіч.

Перад намашчэннем алтара вернікі разам са святарамі памаліліся Літаніяй да ўсіх святых, пасля чаго біскуп намасціў алтар святым алеем — хрызмам. У гэты час пробашч парафіі кс. Аляксандр Півавар намасціў чатыры адмысловыя знакі ў выглядзе крыжоў на сценах касцёла.

Потым на алтар была пастаўленая кадзільніца, у якую біскуп засыпаў духмянае кадзіла, пасля чаго акадзіў алтар і ўсю святыню.

Кс. Аляксандр атрымаў з рук біскупа запаленую свечку, ад якой запаліў свечкі перад алтаром, пасля чаго алтар быў засланы белым абрусам і на ім распачалася Эўхарыстыя.

Прыняўшы святую Камунію, усе ўдзельнікі ўрачыстасці праспявалі гімн Te Deum — «Цябе, Бога, праслаўляем».

На заканчэнне Імшы вернікі падзякавалі біскупу за асвячэнне святыні, а пробашчу кс. Аляксандру Півавару — за паспяховае завяршэнне яе будаўніцтва.

Пробашч, у сваю чаргу, выказаў падзяку ўсім тым, хто нейкім чынам прычыніўся да будаўніцтва касцёла ў Бешанковічах, а таксама тым вернікам і святарам, якія прысутнічалі ў храме ў гэты святочны і радасны дзень.

Асаблівая падзяка ад пробашча і біскупа была скіравана сёстрам уршулянкам, якія пэўны час працавалі ў Бешанковічах, і асабіста сястры Чаславе Навіцкай USJK, якая прысутнічала на ўрачыстасці.

Нарэшце на алтары святыні быў падпісаны ўрачысты акт аб асвячэнні касцёла.

Яго падпісалі біскуп Віцебскі Алег Буткевіч, пробашч парафіі кс. Аляксандр Півавар, а таксама святары, якія раней служылі ў Бешанковічах і ў гэты дзень прысутнічалі на ўрачыстасці.

**Зміцер Лупач**
**Catholicnews.by**

ЭКАНОМІКА

# ІНВЕСТУЮЦЬ КАЛЯ $10 МЛН

**У развіццё унікальнай вытворчасці лекавых прэпаратаў для лячэння анкалагічных захворванняў СТАА «Націвіта» плануецца дадаткова прыцягнуць каля $ 10 млн. Пра гэта ішла гаворка на сустрэчы старшыні Савета Рэспублікі, упаўнаважанага па супрацоўніцтве з Індыяй Міхаіла Мясніковіча з генеральным дырэктарам буйной індыйскай кампаніі «Натка фарма Лімітэд», якая з’яўляецца сузаснавальнікам «Націвіты», Раджывам Наннапанені**

Упершыню ў Беларусі ствараецца новы кірунак, які адпавядае сусветным трэндам у фармацэўтычнай прамысловасці, - біятэхналагічная вытворчасць на аснове монаклнальных антыцелаў з унікальным для краіны навукова-даследчым цэнтрам.

"Пытанні лекавага забеспячэння з'яўляюцца прыярытэтнымі для эканомікі нашай краіны. Мы зацікаўлены ў тым, каб сумесна з індыйскімі інвестарамі выпрацаваць шырокую наменклатуру лекавых прэпаратаў, - падкрэсліў Міхаіл Мясніковіч. - Беларусь у гэтым плане добрая пляцоўка і для выхаду на рынак краін Еўразійскага эканамічнага саюза".

Раджыў Наннапанені адзначыў высокі ўзровень рэалізацыі праекта і выказаў упэўненасць у далейшым паспяховым супрацоўніцтве з Беларуссю. "Натка фарма Лімітэд" з'яўляецца адным з сусветных лідэраў па вытворчасці прэпаратаў для лячэння анкалагічных захворванняў і вядучым вытворцам у гэтым сегменце ў Індыі. "Я ўпэўнены, што мы можам забяспечыць Беларусь прэпаратамі высокай якасці па даступных цэнах. Мы рады развіваць тут свой бізнес і пазітыўна ацэньваем далейшыя перспектывы", - сказаў ён.

У праекце ўдзельнічае міжнародны склад заснавальнікаў: кампаніі Беларусі, Індыі, Славакіі, Літвы. У будаўніцтва фармацэўтычнага завода інвестары ўжо ўклалі $ 15 млн. Зарэгістравана 22 лекавых прэпараты. "Агульны аб'ём рэалізацыі прадукцыі у 2018 годзе склаў $ 17 млн, у гэтым годзе чакаецца каля $ 28 млн, - адзначыў старшыня савета дырэктараў, выконваючы абавязкі генеральнага дырэктара СТАА" Натцівіта "Аляксей Сычоў. - У планах кампаніі - штогадовае асваенне не менш як 7 лекавых сродкаў" . Гаворка ідзе не толькі аб вытворчасці джэнерыкаў, але і аб распрацоўцы ўласных арыгінальных прэпаратаў, для чаго будзе створаны комплекс сучасных лабараторый для распрацоўкі лекавых сродкаў, а таксама кантролю іх якасці.

Глыбокая лакалізацыя і вытворчасць лекаў па поўным цыкле стварае добрыя магчымасці і для развіцця экспарту. Чакаецца, што ў гэтым годзе на знешнія рынкі заводам будзе пастаўлена прадукцыі на $ 7,7 млн. На працягу пяці гадоў гэтую лічбу плануецца павялічыць да $ 50 млн.

Усяго ў Беларусі рэалізуюцца тры інвестыцыйныя праекты з індыйскімі фармацэўтычнымі кампаніямі - у Бешанковічах Віцебскай вобласці, Скідзелі Гродзенскай вобласці і Калядзічах Мінскай вобласці.

**Віцебскія весткі**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ЗМЯНЕННЕ ПРЫРОДЫ ЧАЛАВЕКА — ЗАДАЧА, ЯКУЮ БАЛЬШАВІКІ ВЫРАШЫЛІ

**«Азбука камунізму» была напісаная Мікалаем Бухарыным і апублікаваная ў 1919 годзе ў сувязі з тым, што «ў такім “падручніку” адчуваецца велізарная патрэба». Сваёй актуальнасці яна не страціла і праз стагоддзе. Цытую: «Адзін з галоўных падманаў буржуазнай дэмакратыі палягае ў тым, што яна дае толькі бачнасць правоў; на паперы пазначана, што працоўныя могуць выбіраць у парламент цалкам свабодна, што яны маюць такія ж правы, як і гаспадар (яны нібыта «роўныя перад законам»); што яны могуць свабодна аб’ядноўвацца ў саюзы, збірацца на сходы, выпускаць якія заўгодна газеты, кніжкі і іншае. У гэтым бачаць «сутнасць дэмакратыі» і заяўляюць, што тут дэмакратыя для ўсіх, для ўсяго народа, для ўсіх грамадзян, а не так, як у Савецкай рэспубліцы».**

Дык вось яна якая, буржуазная дэмакратыя! Усё, на што яна здольная, — «толькі бачнасць правоў». Іншая справа, Рэспубліка Беларусь — «унітарная дэмакратычная сацыяльная прававая дзяржава» (Канстытуцыя, артыкул 1), у якой «чалавек, яго правы, свабоды і гарантыі іх рэалізацыі з’яўляюцца найвышэйшай каштоўнасцю і мэтай грамадства і дзяржавы» (артыкул 2), а «адзінай крыніцай дзяржаўнай улады і носьбітам суверэнітэту з’яўляецца народ» (артыкул 3).

Хто б сумняваўся. Не пры буржуазнай жа дэмакратыі жывем! Нездарма ж у асноўным законе краіны прыметнік «буржуазны» адсутнічае. Не знайсці днём з агнём прадстаўнікоў буржуазіі і ў беларускім парламенце — і гэта нягледзячы на тое, што немалая колькасць фабрык і заводаў знаходзіцца ў руках прыватнікаў, г. зн. буржуазіі…

**Найвялікшы цуд усіх часоў**

Прафесійны публіцыст і журналіст Бухарын з лютага 1934 па студзень 1937 года ўзначальваў газету «Известия». Як і ва ўсіх яго калегаў па пяры, у ягоным слоўніку адсутнічала слова «постпраўда», якое сёння ўваходзіць у моду. Але, як і герой Мальера, які не ведаў, што ён размаўляе прозай, Бухарына можна смела аднесці да ліку піянераў, што паставілі вытворчасць постпраўды на ідэалагічны канвеер.

Што ж азначае слова «постпраўда», якое стала ў 2015-м, паводле версіі Брытанскай энцыклапедыі, словам года? Згодна з Вікіпедыяй, палітыка постпраўды — «тып палітычнай культуры, у якой дыскурс у асноўным фарміруецца праз зварот да эмоцый і асабістых перакананняў аўдыторыі, пры гэтым падрабязнасці палітычнай рэальнасці застаюцца без увагі».

Пагодзімся, але дапоўнім гэта вызначэнне яшчэ адным, запазычаным у расійскага фінансіста Андрэя Моўчана: «Гэта тэрмін, што пазначае інфармацыю, якую вам перадаюць такім чынам і так, каб вы прымалі рашэнне, якое выгадна таму, хто перадае інфармацыю. Такім чынам, гэта не аб’ектыўная інфармацыя, а інфармацыя, створаная для таго, каб чаго-небудзь дасягнуць».

Як такі тып інфармацыі ствараецца на практыцы, я праілюструю на прыкладзе штотыднёвай інфармацыйна-аналітычнай праграмы «Галоўны эфір» на тэлеканале «Беларусь 1».

У травеньскіх выпусках праграмы на 48 сюжэтаў прыйшлося 27, што былі прысвечаныя ўнутраным праблемам, 6 — знешнім і 15 — змяшаным. Да апошніх адносяцца сюжэты, у якіх распавядалася пра ўзаемадзеянне беларускіх эканамічных і культурных суб’ектаў з замежнымі партнёрамі.

«Галоўны эфір» — праграма не пра праблемы краіны, а пра яе поспехі. Таму няма нічога дзіўнага, што тэме беларуска-расійскіх стасункаў быў прысвечаны толькі адзін сюжэт («брудная нафта») і толькі адзін сюжэт меў дачыненне да побытавых праблем простых людзей.

Натуральна, што кожны трэці сюжэт будаваўся вакол фігуры адзінага палітыка (АП). Каб надаць большую пераканаўчасць яго выказванням, у рэпартажы з месцаў актыўна прыцягваліся эксперты і грамадзяне, якія ўхвалялі палітыку кіраўніка дзяржавы. Іх сумеснымі намаганнямі тэлебачанне фарміравала вобраз краіны — з багатай гісторыяй, «зручнай для жыцця» і прывабнай для замежных турыстаў.

У травеньскім «Галоўным эфіры» не знайшлося месца для аналізу прычын адкліканя Крамлём пасла Міхаіла Бабіча. Праігнаравалі журналісты і чарговую нярадасную статыстыку ад Белстата. Усё лагічна. Шмат будзеш ведаць — хутка састарэеш. А хіба могуць спрыяць на дзяржаўным тэлеканале такой нярадаснай перспектыве нашых суайчыннікаў?!..




**Няма правілаў без выключэнняў**

Задача па змяненні прыроды чалавека, мабыць, была адзінай, якую бальшавікі перад сабой не толькі паставілі, але і паспяхова вырашылі. Чалавек са зменай прыродай — гэта добра нам вядомы па даследаваннях сацыёлагаў Лявада-цэнтра «чалавек савецкі». Ён і сёння складае ядро так званай беларускай «большасці».

Гэта ён у 1994 годзе дружна падтрымаў на першых прэзідэнцкіх выбарах будучага АП. Гэта ён прыняў акупацыю Крыма ў 2014 годзе за «аднаўленне гістарычнай справядлівасці». А ў чэрвені 2015 года «чалавек савецкі» на пытанне НІСЭПД: «Калі б Расія ўзброеным шляхам паспрабавала далучыць да сябе ўсю тэрыторыю Беларусі або яе частку, як бы Вы дзейнічалі?» заявіў, што прыстасаваўся б да новай сітуацыі (53%) і вітаў б гэтыя змены (12%).

Мне ўжо неаднаразова даводзілася пісаць пра тое, што пераход ад першабытных зграяў «гома сапіенс» да вялікіх сучасных калектываў гістарычна ажыццяўляўся за кошт трох фактараў: сілы, веры і закона. Зразумела, што на пачатковым этапе гэтага пераходу пераважала сіла, а ў эпоху мадэрну і постмадэрну — закон.

Аднак няма правілаў без выключэння. Прывяду свежае (чэрвеньскае) выказванне АП: «Усё можам перапрацоўваць, лёгкая прамысловасць добрая. Але ж не, чагосьці чакаем. Чакаем, пакуль прэзідэнт па галаве не ўдарыць (выпучана. — Рэд.). Таму шукайце новыя напрамкі, новыя культуры. Трэба прадаваць, трэба зарабляць грошы».

Адна справа — калі наглядчыкі ўдарамі па галаве стымулявалі будаўнікоў пірамід, зусім іншая — спрабаваць гэткім жа чынам прымусіць чыноўнікаў шукаць «новыя напрамкі». З падобнымі прапановамі АП звяртаецца да свайго асяродку ўжо не першы год. Вынікаў не відаць, але ён чалавек упарты, і гэта дае надзею…

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**“Новы Час”**

25 ГАДОЎ

# НІ «СВЕТЛАГА МІНУЛАГА», НІ ПЭЎНАЙ БУДУЧЫНІ

**Роўна 25 гадоў таму, 10 ліпеня 1994 года, Аляксандр Лукашэнка трыумфальна перамог у другім туры першых у Беларусі прэзідэнцкіх выбараў. Дэпутат з глыбінкі з іміджам гэткага беларускага Робіна Гуда паклаў на лапаткі наменклатурніка Вячаслава Кебіча, які надакучыў масам.**

Лукашэнка абяцаў забрытаць наменклатурнай мафію, адолець карупцыю, адвесці краіну ад эканамічнай прорвы і, па вялікім рахунку, вярнуць савецкія парадкі. Пры тагачаснай разрусе ў эканоміцы і галовах шмат хто настальгаваў па «светламу мінуламу» з гарантаванай працай і каўбасой па 2.20. Гэта і абумовіла ўзлёт былога саўгаснага дырэктара і палітпрацаўніка.

Другой фішкай Лукашэнкі стала ідэя «братэрскай інтэграцыі» з Расеяй, што абяцала танныя рэсурсы без «рабаўніцкіх рэформаў».

Але сёння, праз чвэрць стагоддзя, электарат расчараваны, імідж нязменнага (і такога, якога ніхто не зменіе!) прэзідэнта прыцьмеў, яго рэйтынг стаў чымсьці кшталту дзяржаўнай таямніцы.

Былы Робін Гуд раз’язджае ў новым браняваным Mercedes’е, які каштуе, як прыкінулі СМІ, не менш за 1,4 млн еўра, пакуль жыццё большасці людзей вельмі цяжкое, а краіна практычна спынілася ў развіцці.

**Гэта фіяска, братан!**

Вярнуць «светлае мінулае» так і не ўдалося. Так, нейкі час на расейскіх рэсурсах і савецкай індустрыяльнай базе эканоміка Беларусі расла няўрэнна, заробкі — таксама. Але патроху монстры сацыялістычнай індустрыі выдахліся, сталі неканкурэнтаздольнымі, злёгку пераліцаваная калгасная сістэма на сяле таксама аказалася не надта эфектыўнай. Падтрыманне прадпрыемстваў-зомбі стала зжыраць усё больш бюджэтных грошай.

У дадатак Масква надакучыла даваць рэсурсы па «братэрскіх» коштах. Яна запатрабавала «паглыбленай інтэграцыі», чытай: мяккага паглынання. А каб партнёр не асабліва ўпіраўся, стала скарачаць фінансава-эканамічнае падтрыманне.

У апошнія гады, калі ўсхваленая прапагандай «беларуская мадэль» забуксавала, Лукашэнка вымушаны адмаўляцца ад патэрналізму, скарачаць сацыяльныя абавязкі дзяржавы. Раней за Уладзіміра Пуціна павысіў пенсійны ўзрост. Раз за разам раіць электарату больш круціцца самастойна.

**Беларусь выпала з часу**

Але, сказаўшы «а», прэзідэнт не кажа «б». Ён працягвае трымацца за велізарны неэфектыўны дзяржсектар, паколькі бачыць пагрозу сваёй уладзе ў шырокай прыватызацыі, узнікненні моцнага незалежнага бізнесу і пласта грамадзянаў, якія не моляцца на дзяржаву.

Па гэтай жа прычыне ў краіне жорстка душацца палітычныя пратэсты. Апазіцыя ды актывісты грамадзянскай супольнасці выцесненыя ў маргінальную нішу.

Так, палітычнае поле зачысціў, рэальных канкурэнтаў у Лукашэнкі на выбарах 2020 года пакуль не прадбачыцца. Падначаленыя гатовыя запэўніць праваднагу чарговы высокі афіцыйны вынік (незалежная сацыялогія фіксавала іншыя лічбы, таму яе і прыдушылі).

Але гэтая перамога Лукашэнкі над краінай выглядае сёння піравай. Ён стаў закладнікам сваіх стэрэатыпаў і фобіяў. Беларусь — у тупіку, яна нібы выпала з часу.

Аўтарытэтныя міжнародныя эксперты дружна сцвярджаюць, што без рэформаў эканамічны рост будзе не большы за паўтара-два працэнты на год (а калі Расея моцна прыцісне, і таго не чакай). Гэта азначае, што Беларусь працягне адставаць нават ад суседніх, не самых багатых, краін ЕЗ. У Польшчы ды дзяржавах Балтыі заробкі ўжо ў 2,5-3 разы вышэй, чым у беларусаў.

**Аўтакратыя губіць перспектыву краіны**

У свой час Лукашэнка прапанаваў народу негалосны кантракт: я вам забяспечваю чарку і скварку (гэта было сімвалам дабрабыту для простых людзей), а вы не лезеце ў палітыку. І маса, на жаль, даволі лёгка абмяняла дэмакратыю на сытасць. Але ў выніку беларусы трапілі ў пастку. Цяпер шмат хто незадаволены ўладай, але паспрабуй яе змяні!

Вядома, рана ці позна перамены праб’юць сабе дарогу. Аднак сцэнар можа апынуцца вельмі драматычным. У дадатак гульні з імперыяй падвесілі дамоклаў меч над беларускім суверэнітэтам.

Эпоха ж Лукашэнкі, які так эфектна пачынаў, можа ўвайсці ў падручнікі як тыповы прыклад загнівання, дэградацыі аўтарытарнай улады, якім бы харызматычным ні быў правадыр.

**Аляксандр Класкоўскі**
**https://belsat.eu**

АЛКАГАЛІЗАЦЫЯ

# КАК БЕЛОРУСЫ УМИРАЮТ ИЗ-ЗА АЛКОГОЛЯ

**В Беларуси каждый день около 50 человек умирает от заболеваний, связанных с употреблением алкоголя. В год таких случаев около 20 тысяч. В прошлом году 1476 людей умерли от случайного отравления алкоголем.**

— По оценкам ВОЗ, в год в Беларуси умирает около 20 тысяч человек от заболеваний, связанных с вредным употреблением алкоголя. Это 50 смертей каждый день, — рассказал Валентин Русович, координатор программ по общественному здоровью странового офиса ВОЗ в Беларуси во время онлайн-трансляции из Национального пресс-центра.

Из около 20 тысяч смертей более 11 тысяч — это смерти от сердечно-сосудистых заболеваний. Речь идет об инфарктах, инсультах, сердечной недостаточности. Около 6 тысяч смертей — от внешних причин. Это суициды, травмы, пожары, утопления и ДТП. Свыше одной тысячи смертей — от цирроза печени, и примерно столько же — от рака, который также связан с пьянством.

По словам Валентина Русовича, ВОЗ ассоциирует несколько видов рака, которые связаны с вредным употреблением алкоголя. Это рак полости рта, глотки, пищевода, печени, прямой кишки и толстого кишечника. До 5% случаев рака молочной железы у женщин вызывает в числе прочего и вредное употребление алкоголя.

В 2018 году 1476 жителей Беларуси умерли от отравления алкоголем. Это 1186 мужчин и 290 женщин. Лишь 10% из этих смертей связаны с некачественным алкоголем или употреблением метилового спирта. Почти все смерти в этой категории — от передозировки спиртного. По словам Русовича, средняя смертельная доза алкоголя начинается с 30 рюмок по 35 мл крепкого спиртного напитка: водки или коньяка.

— Это эквивалентно полутора бутылкам водки, которая выпивается в течение шести часов. Достигается концентрация 3,5 промилле алкоголя в крови — и смерть наступает в результате передозировки и остановки дыхания.

С точки зрения ВОЗ нет безопасного уровня алкоголя, в идеале человек не должен вообще его употреблять. В структуре потребления алкоголя в Беларуси 49% занимают крепкие спиртные напитки, 26% — крепленые вина.

ВОЗ в своих рекомендациях призывает не пить больше двух стандартных единиц алкоголя в день мужчинам и более одной стандартной единицы — женщинам. При этом не менее двух дней в неделю нужно полностью воздерживаться от алкоголя.

Под одной стандартной единицей алкоголя подразумевается 10 граммов чистого спирта. Например, это 0,33 пива, или один фужер сухого вина, или одна рюмка в 35 мл крепких спиртных напитков.

— Вредное употребление алкоголя начинается с шестого тоста во время застолья, когда человек пьет маленькими рюмками по 35 мл. Этими нормами оперирует ВОЗ, — говорит Русович…

По статистике, мужчины в Беларуси употребляют 18 литров чистого спирта в пересчете на все алкогольные напитки в год, женщины — 5,5 литра. 1 литр чистого спирта эквивалентен пяти пол-литровым бутылкам водки. То есть 18 литров чистого спирта — это 90 пол-литровых бутылок водки в год… Сегодня на диспансерном учете в Беларуси состоят примерно 158 тысяч человек, больных алкоголизмом.

*(скарочана)*

**tut.by**

II ЕЎРАПЕЙСКІЯ ГУЛЬНІ

# ДОРОГАЯ И НЕ БЛЕСТЯЩАЯ ИГРУШКА

**Европейские игры в Минске оказались дорогой и не слишком блес-тящей игрушкой. Инвесторы, на приток которых рассчитывают белорусские власти, ориентируются не на шоу с фейерверками...**

Как ни старались государственные СМИ разрисовать II Европейские игры всеми красками, создать видимость, что этим живет вся страна и заинтересован весь мир, мероприятие не дало того эффекта и резонанса, на который рассчитывало руководство Беларуси.

**Туристы не повалили, электорат равнодушен или раздражен**

Власти надеялись на большой приток туристов, поддержку международных спонсоров («Европейцы сказали, что помогут», — уверял Лукашенко), продвижение имиджа Беларуси на Западе. Уже очевидно, что надежды оправдались далеко не в полной мере.

Спонсоры не разогнались помогать. Иностранцев оказалось негусто. Начальник департамента по гражданству и миграции МВД Алексей Бегун сообщил, что приехало в Беларусь по билетам Европейских игр и заявило о намерении посетить спортивные мероприятия 4686 человек (это, правда, без учета россиян). Для сравнения: на чемпионат мира по хоккею в 2014 году прибыло более 80 тысяч человек из 46 стран.

Не вызвали игры ажиотажа и среди массы электората. В ряде видов спорта уровень участников оказался не самым звездным. На многих состязаниях трибуны были полупустые. Не блистали многолюдностью фан-зоны. У входов на арены волонтеры уныло махали предназначенными для зазывания искусственными лапами, при том что прохожие равнодушно шагали мимо.

Минчан раздражали неудобства: перекрывались улицы, возникали пробки. Похоже, не всех вдохновила и мобилизация в волонтеры. Социальные сети всячески иронизировали над косяками мероприятия, дурным вкусом и чрезмерными амбициями большого начальства.

**Вбухали кучу денег, которые не отобьются**

Событию, которое Александр Лукашенко любовно назвал «минской Олимпиадой», самые язвительные критики приклеили ярлык «Голодные игры».

Ну, положа руку на сердце, такой уж голодухи у нас нет. Однако экономический фон неважный, это правда. Упала внешняя торговля (на 2% за январь — май), ВВП почти перестал расти (за первые пять месяцев года прирост снизился до 1%). Даже средняя зарплата в мае сползла до 1071,6 рубля.

И на таком фоне многих неприятно поразили цифры, которые назвал министр финансов Максим Ермолович. Оказалось, что Беларусь уже потратила на эти игры 540 млн рублей (около 270 млн долларов), в том числе — 266 млн рублей из бюджета.

Между тем Лукашенко в 2016 году заявлял: «Мы посчитали, что даже в плюсе будем. Нам надо будет затратить где-то под 50 млн долларов за эти годы. Это слезы для страны».

Слезы оказались покрупнее, чем думалось. Окончательные подсчеты впереди, но уже невооруженным глазом видно, что потраченные деньги вряд ли удастся отбить.

Правда, можно утешаться тем, что львиная доля средств вложена в инфраструктуру и оборудование — то, что будет работать и после.

А еще, по мнению Ермоловича, «такой уровень проведения игр создает определенный инвестиционный эффект, открывает страну для широкого круга внешних инвесторов».

Но это вилами по воде писано. Вряд ли инвесторы ориентируются на шоу с фейерверками и элементами дополненной реальности. Им важнее другая реальность: законы, гарантии, перспективы.

А какие могут быть гарантии и перспективы, если белорусское руководство на словах не против предложенного Москвой углубления интеграции, что чревато потерей суверенитета? Когда неизвестно, что с этой страной будет завтра, осторожный инвестор не разгонится вбухать сюда капиталы…

*(скарочана)*

**Александр Класковский**
**https://naviny.by**

ДЗЕНЬ БЕЛАРУСІ

# «ДЕНЬ НЕЗАВИСИМОСТИ 3 ИЮЛЯ — БОЛЬШОЕ НЕДОРАЗУМЕНИЕ»

**После распада СССР прошло уже почти 30 лет, а в Беларуси, в отличие от других постсоветских стран, нет единства по поводу вопроса, когда именно надо отмечать День независимости.**

**3 июля — независимость или память о войне?**

В 1992-1996 годах День независимости в Беларуси официально отмечался 27 июля — по дате принятия Декларации о государственном суверенитете в 1990 году. Но через два года после победы на президентских выборах, в 1996 году, Александр Лукашенко инициировал референдум, по результатам которого праздник был перенесен на 3 июля — дату освобождения Минска от фашистских захватчиков в 1944 году.

Директор института «Политическая сфера» Андрей Казакевич говорит, что перенос Дня независимости был использован для привлечения внимания к более важным вопросам референдума об изменении Конституции Беларуси: «Основной идеологический посыл власти на тот момент был связан с обращением к советскому прошлому Беларуси, вопрос о 3 июля должен был мобилизовать электоральную поддержку, ведь образ войны был узнаваем и эмоционально близок для большинства населения страны».

Поэтому 3 июля сейчас и отвечают соответствующим образом — парадом армии, военной техники и салютом.

**Еще пять Дней независимости**

Отказаться от даты 27 июля белорусам было несложно — она не имела серьезного эмоционального содержания и скорее, наоборот, ассоциировалась с кризисом, считает политолог.

«Более того, как только дата 27 июля стала праздником в 1990 году, она столкнулась с конкуренцией со стороны Дня Воли (25 марта, день провозглашения независимости Белорусской Народной Республики в 1918 году), который сторонники независимости Беларуси считали более значимым и важным».

Кроме того, в общественной дискуссии Беларуси фигурируют и другие даты, которые можно «назначить» днем независимости Беларуси — провозглашение независимости Беларуси 25 августа 1991 года, переименование БССР в Республику Беларусь 19 сентября 1991 года, а также годовщина победы войска ВКЛ над русской армией 8 сентября 1514 года…

**3 июля прижилось в сознании белорусов**

На символическом уровне выбор даты 3 июля как Дня независимости Беларуси выглядит странно, считает социолог Оксана Шелест: «День освобождения города Минска от немецких оккупантов и День независимости Республики Беларусь — эти два события довольно сложно идейно увязать между собой и найти реальную историческую связь».

А вот старейший белорусский историк, доктор исторических наук Леонид Лыч называет выбор даты 3 июля для празднования дня независимости «большим недоразумением». «То, что 3 июля стал днем независимости, — это большое недоразумение. Это не стыкуется ни с какой хронологией. 3 июля должен быть все время днем освобождения, и никаких других дней нельзя сочетать с ним. Но это огромное преступление против истории. Ни одна республика (из бывших совестских — прим. БП) так не сделала: у них есть дни независимости и дни освобождения от немецкой оккупации», — высказал Белсат свое мнение историк.

**Какая дата объединит белорусов?**

…По мнению политолога Казакевича, День Воли — определенно фаворит в общественных дискуссиях. «Празднование 100-летия БНР в 2018 году показало, что только 25 марта является альтернативным Днем независимости, который имеет существенное идейное и эмоциональное содержание для заметной части белорусского общества».

Казакевич считает, что теперь главный вопрос состоит в том, куда дальше пойдет общественная дискуссия. «Для понимания проблемы с датой дня независимости следует обращать внимание не только на текущее общественное восприятие, которое в значительной степени зависит от позиции государства. Важное значение имеют также и дискуссии в интеллектуальной и политической сфере, где проблема развития белорусской национальной идентичности сохраняет свою актуальность и где формируются альтернативные подходы развития белорусской нации и общества».

**https://belaruspartisan.by**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 17.07.2019 у 16.10**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.